# КЛУБ ТВОРЧЫХ БЕРАСЦЕЙЦАЎ

**Клуб творчых берасцейцаў – гэта штотыднёвае мерапрыемства, сяброўская сустрэча крэатыўных, таленавітых і неабыякавых берасцейцаў, якія хочуць і на іншых паглядзець і сябе паказаць.**

Кожны вечар карысны: праводзіцца добраахвотны збор грошаў на разлiковы рахунак Брэсцкага гарадскога грамадскага аб'яднання «Дзеці ў бядзе», у дапамогу і падтрымку юных берасцейцаў, якія хварэюць складанай формай анкалагічнага захворвання. А абаронцы жывёл могуць дапамагчы і ім.

Арганізатары дэкларуюць, што мерапрыемства вольнае ад палітыкі, нацыяналізму, існуе па-за межамі рэлігійных пытанняў. Яны таксама супраць ўжывання удзельнікамі ненарматыўнай лексікі і брыдкаслоўя, прапаганды алкаголю і тытуню.

У рамках гэтых сустрэч адбываюцца выступленне пачаткоўцаў, маладых брэсцкіх паэтаў, музыкаў, бардаў, штукароў і артыстаў розных жанраў, творчых асоб у любым праяве а таксама мініяцюрныя тэатральныя пастаноўкі і нават кропкавыя экспазіцыі жывапісу, графікі і скульптуры, перформансу ...

Сустрэчы адбываюцца кожную нядзелю ў 16:00 у глядзельнай зале кінатэатра "Беларусь".

Некалькі мінулых творчых пасядзелак набылі сваю адметнасць - спачатку на адзін з вечароў завітаў гусляр, а потым цэлы гурт сонечных бардаў.

Гусляр Уладзімір Уладзіміраў з Тальцы выканаў нелькі старажытных і сучасных песень, а потым запрасіў усіх на славянскія карагоды.





Сонечныя Барды – гэта менестрэлі радасці і шчасця, яны нясуць сваімі песнямі светлыя, жыццесцвярджальныя вобразы, вобразы росквіту Душы і росквіту нашай каштоўнай Зямлі.

Аднойчы кожны з іх заўважыў, што песня прыцягвае ў жыццё сваё ўтрыманне. І яны вырашылі спяваць пра тое, што хочуць бачыць у жыцці. А жыць мы ўсе хочам добра і шчасліва, таму песні іх таксама добрыя і выдатныя.

Галоўнае мерапрыемства Сонечных бардаў – гэта "Каравай Любові", падчас якога з 2003 г. спевакі з розных гарадоў і краін збіраюцца разам і вядуць свой тур па гарадах і вёсках у імя росквіту дабра. Даюць дабрачынныя канцэрты, у тым ліку са "свабодным", безграшовым уваходам. Падарожнічаюць і зарабляюць на жыццё канцэртамі.

Але ўсё ж такі галоўная мэта клубу – гэта даць магчымасць усім і кожнаму праявіць сябе. Для таго, каб зрабіць гэта, патрэбна толькі жаданне. Маладзёны, дзеці і людзі больш сталага узросту прыходзяць, каб прачытаць любімыя вершы, спець песні, патаньчыць, паказаць свае цікавыя і незвычайныя фота і зрабіць шмат чаго яшчэ.

**Мільва**

# КОМПЛЕКС ПРАВІНЦЫЯЛКІ

**Жывем мы ў Беларусі ў перавернутым, перакручаным грамадстве. Грамадстве, у якім страчаны амаль усе арыенціры, грамадстве, дзе многае перакулена з ног на галаву.**

У нашым дзіўным каралеўстве крывых люстэркаў усё робіцца для ўзмацнення гэтай татальнай фантасмагорыі, для давядзення гэтага абсурду да абсалюту.

У шматтысячнай гісторыі чалавецтва было шмат паняволеных народаў і заваяваных краінаў, многія з іх даўно зніклі з аблічча зямлі, альбо перарадзіліся ў іншыя. Але, думаецца, плямёнаў манкуртаў, якія паказаў у сваім літаратурным творы кыргызскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў, у рэальнасці было не так шмат.

Адным з такіх ёсць сучасныя беларусы – народ, які жыве нібыта ў сваёй паводле назвы дзяржаве, а між тым – нібыта як на чужой зямлі, народ са сваёй багатай гісторыяй, але які жыве чужым розумам і чужынскімі парадкамі. Зразумела, што больш чым за дзвесце гадоў панавання тут усходняга суседа не маглі прайсці бясследна. Акрамя таго, што мяняліся этнічныя межы, паліліся беларускія кнігі, руйнавалася наша архітэктура, вынішчаліся фізічна і людзі – ваяры, інтэлігенцыя, цвет нацыі. Тым, каго пакідалі жывымі, прапаганда прышчапляла трывалы комплекс правінцыйнасці. Беларусь мусіла быць то "северо-западным краем", то "партызанскай рэспублікай", то ўрэшце нібыта самастойнай дзяржавай, але ў якой "нічога няма" – прыродных рэсурсаў, людскіх талентаў, сваёй паўнавартаснай мовы і культуры. Вось і не можа стаць дзікая абрэвіятура РБ – Рэспублікай Беларусь.

На дзяржаўным тэлебачанні хлопцы і дзеўкі, спрэс з беларускімі прозвішчамі, якія лічаць сябе мясцовымі "зоркамі" (але з нязменнай жыццёвай марай патрапіць у вялікія Пецярбург ці Маскву, дзе сапраўдная для іх сталіца) нібыта спаборнічаюць паміж сабой у тым, хто больш прынізіць і абразіць дзяржаўную беларускую мову.

Асабліва гэта выяўляецца ў забаўляльных перадачах. Асабіста я стараюся іх не глядзець, але часам трапляю на такія сюжэты, ці іншыя расказваюць. Не разумеюць гэтыя напышлівыя фанабэрыстыя маладзёны, што абражаюць найперш сябе, ім здаецца, што яны спасціглі "вышэйшую культуру". А ўсе іх "творчыя знаходкі" глядзяцца да пачварнасці агідна. Дзяржава свядома дыскрымінуе беларускую мову. Тых жа спартовых каментатараў, якія памкнуліся перайсці на родную мову, хутка зацуглялі і вярнулі ў расейскамоўнае "стойла".

Ды што там дзяржаўныя медыі. Вось адчыняю адзін рэгіянальны незалежны сайт з безаблічнай пустой назвай і чытаю ў адным з блогаў здатнай некалі журналісткі такі ўступ: "Я живу в небольшом провинциальном городке…". А горад гэты мае багацейшую гісторыю і культуру і нават сёння ўражвае сваёй велічнай архітэктурай.

Дык адкуль у нашых людзей такі комплекс непаўнацэннасці, такое імкненне да самапрыніжэння?! У партнёрах гэтага незалежнага інтэрнэтнага рэсурсу – спрэс вядомыя і аўтарытэтныя беларускія арганізацыі і ініцыятывы, іх банеры пададзены знізу, але афармлены сайт выключна па-расейску, матэрыялы таксама амаль усе на чужой мове. Адмыслова не называю ні рэсурс, ні горад, ні прозвішчаў – бо з'ява ўжо досыць тыповая для беларускай незалежнай інтэрнэт-прасторы. Ці дастаткова з'ездзіць у сталіцу Менск і прайсціся па дэмакратычных офісах вядомых арганізацый – уражанне атрымаеце досыць сумнае – у бальшыні з іх працоўная і побытавая мова – расейская. Нібыта ў Самару ці Волагду трапіў…




І вось тут становіцца сумна па-сапраўднаму. Бо чым тады прынцыпы і светагляд нашых незалежных арганізацый розняцца ад паставаў і палітыкі дзяржаўных структураў, якія мы крытыкуем?!

Пагалядзіце блогі ў інтэрнэце вядомых айчынных журналістаў – большасць з іх будзе выключна па-расейску, бо дзе ж ты на беларускай мове выкажаш штосьці вялікае, як казаў адзін вядомы правадыр!?

Пры тым і ўсялякія іншыя прыдумкі дэкларуюцца – кшталту "пашырыць інфармацыйную прастору", "давесці глыбокія думкі да як мага большай часткі грамадства" і таму падобнае.

А Беларусь з-за такога нацыянальнага нігілізму так і застаецца правінцыялкай, якая саромеецца свайго.

**Паводле Радыё Рацыя**

# “Дзіцячая заМова”

## Выйшла хэндмэйд-кніжка пра памылкі ў беларускай мове

**Малады журналіст і паэт Глеб Лабадзенка цягам некалькіх месяцаў маляваў самыя распаўсюджаныя складанасці беларускай мовы і выкладываў іх у свой блог.**













Малюнкі прысвечаны найбольш частым памылкам беларускай мовы, на іх ён тлумачыць, калі трэба выкарыстоўваць «зараз» і «цяпер», у чым розніца паміж «лістом» і «аркушам» ды як не пераблытаць «алей» з «алівай».

Усе гэтыя малюнкі (а таксама некалькі новых, якія ніколі публікаваліся) Глеб сабраў разам у адну кніжыцу, якая днямі выйшла ў выдавецтве «Паперус».

*«Жонка сказала мне: слухай, увесь час блытаю «цяпер» і «зараз». Намалюй мне — я ў прыбіральні павешу і буду запамінаць,* — распавядае Generation.by падрабязнасці нараджэння ідзі Глеб Лабадзенка. *— Я намаляваў схемаю ды вывесіў у блог — думаю, хай і іншыя ў туалеце запамінаюць. А потым іншы чалавек кажа: а я блытаю «сябе» і «сабе». Я падумаў: ух, схемаю ўжо не патлумачыш, трэба, значыць, намаляваць. Намаляваў, вывесіў — і пасыпаліся сацыяльныя замовы».*

Кніга зроблена ў выглядзе нататніка, агулам выйшла тысяча асобнікаў, усе яны сабраны і сшыты ўручную. Большасць з кніжак атрымаюць тыя, хто папярэдне замаўляў, а асобнікі, што застануцца, паступяць у продаж.

Глеб плануе таксама выдаць яшчэ некалькі асобнікаў, таму замовіць хэндмэйд- нататнічак можна на labadzenka@gmail.com.

**Паводле nn.by**

**Малюнкі Г. Лабадзенка.**
**Праект «Дзіцячая заМова»**




## Як дзесяцікласнік школу беларусізаваў




**Вучань гімназіі №1 Наваполацка Даніла Астроўскі прыйшоў да дырэктаркі і папрасіў, каб у навучальнай установе праходзілі дні беларускай мовы.**

Яна згадзілася. Першы такі дзень адбыўся ў пачатку снежня: усе прадметы (акрамя замежных моваў) выкладаліся на роднай мове, а самі вучні размаўлялі выключна па-беларуску. Па словах Данілы, гэтым захапілася амаль уся школа — асабліва добра ўспрынялі такую ініцыятыву малодшыя класы.

«Я прыйшоў перад вучобай, паставіў народную музыку і павесіў на ўваходзе плакат аб тым, што сёння дзень беларускай мовы. Таксама развесіў плакаты на дошках аб'яваў. На ўваходзе даваў дзецям раздрукоўкі, што сёння за дзень», — кажа Даніла Астроўскі.

«У нас быў урок матэматыкі па-беларуску, і самае прыемнае, што ўсе ўсё разумелі. Напачатку адна дзяўчына была супраць, але ў цэлым вучні ўспрынялі такі эксперымент пазітыўна».

У школьнай сталовай у гэты дзень падавалі стравы беларускай кухні — дранікі, зразы з бульбай, вінегрэт, чорны хлеб і салату з капусты.

«Я мяркую, калі зрабіць падобныя дні больш частымі і дадаць конкурсы, то мова б адраджалася. Спачатку адна школа, потым увесь горад, вобласць, а там глядзіш, і ўся краіна», — кажа дзесяцікласнік.

«Буду прасіць дырэктарку рабіць такое штомесяц. А пасля — штотыдзень».

Вучні ад 2 да 9 класаў вельмі адказна паставіліся да дня беларускай мовы, а вось са старэйшымі было больш складана, адзначыў дзесяцікласнік. Сам ён кажа, што прапанаваў дырэктарцы праводзіць дні беларускай мовы праз тое, што роднай мовы проста бракуе ў школьным жыцці.

**nn.by**

## Хто вучыцца па-беларуску?

**Белстат апублікаваў звесткі наконт колькасці грамадзян, якія навучаюцца па-беларуску. Агульная колькасць беларускамоўных навучэнцаў у садках, школах, ПТВ, універсітэтах - каля 200 тысяч чалавек.**

У беларускамоўных садках налічваецца каля 45 тысяч дзяцей (11,4%), у садках з рускай і беларускай мовамі — каля 15 тысяч дзяцей (3,8%). У школах беларускамоўных вучняў больш — 151 тысяча чалавек (16,4%). Ва ўстановах сярэдняй спецыяльнай адукацыі «беларускамоўных» 1400 навучэнцаў (0,9%), «дзвюхмоўных» — каля 22 тысяч (14,6%).

Агульная колькасць беларускамоўных навучэнцаў у садках, школах, ПТВ, універсітэтах - каля 200 тысяч чалавек.

Нарэшце, ва ўстановах вышэйшай адукацыі па-беларуску навучаюцца каля 700 чалавек (0,2%), на дзвюх мовах — каля 160 тысяч студэнтаў (37,4%).

Дарэчы, на Гродзеншчыне працуюць адзін польскамоўны (17 чалавек) і адзін літоўскамоўны (13 чалавек) садок. Апроч таго, ёсць тры польскія школы і адна літоўская. У іх агулам навучаецца больш за 700 чалавек.

**nn.by**

# ЧТО ПОГУБИЛО ПТИЦ?



**Уток на реке Витьбе в Витебске погубила соль. К таким выводам пришли ветеринарные врачи.**

Более полусотни погибших уток обнаружили жители Витебска под пешеходным мостом в устье Витьбы 11 февраля.

В соответствии с результатами исследований Витебской городской ветстанции, птицы погибли от солевого отравления. *«Признаков инфекционного или вирусного заболевания мы не установили. В тушках птиц, которые поступили на исследование, обнаружено превышение содержания хлористого натрия. Проще говоря, это солевое отравление. Соль водоплавающим птицам вредна, а погибших уток горожане кормили чипсами и солеными сухариками. Что касается результатов исследования воды в реке, которое провели экологи, то они в норме»*, — сообщил БелаПАН начальник Витебской городской ветеринарной станции **Леонид Рачковский**.

Однако, общественная организация **«Ахова птушак Бацькаўшчыны»** (АПБ) не согласна с выводами исследований Витебской городской ветеринарной станции относительно причин массовой гибели уток на реке Витьбе. Об этом БелаПАН заявил сотрудник по природоохранной деятельности АПБ Семен Левый.

«*Такого быть не может,* — заявил Левый. — Выводы очень странные». По всей Беларуси люди одинаково кормят птиц, но массовой их гибели не отмечается. Согласно расчетам экологов, 50 уткам на Витьбе надо было съесть 135 стограммовых пачек чипсов, чтобы получить солевое отравление.

Как считает Левый, если уж причиной массовой гибели птиц стала соль, то тогда речь должна идти о смыве соли с тротуаров.

Ранее директор АПБ Виктор Фенчук предположил, что причиной гибели уток может быть как целенаправленное отравление, так и какие-то другие факторы, например сброс в воду отравляющих, загрязняющих веществ либо что-то еще. По его мнению, необходима детальная экспертиза тушек погибших птиц.



**По материалам: БелаПан, Народная воля**

# БОЛОТА ПОД УГРОЗОЙ

## ИЗ «8 БОЛОТ» - 2 НА БРЕСТЧИНЕ

**В настоящее время болота в Беларуси общей площадью более ста тысяч гектаров представляют собой национальное природное наследие. Но многие об этом не задумываются, принося им ущерб, для восстановления которого необходимы десятки, а иногда и сотни лет.**


Фота Андрэя Лянкевіча

Поэтому различные общественные организации, в том числе и общественная кампания «За сохранение беларуских болот», научные сотрудники Академии наук, а также не равнодушные к этой проблеме люди вновь продолжили проект, направленный против осушения болот.

ИНТЕРНЕТ-ПРОЕКТ «ВОСЕМЬ БОЛОТ» НАПРАВЛЕН НА ДОНЕСЕНИЕ ОБЩЕСТВЕННОСТИ ТОГО, ЧТО МОЖЕТ СЛУЧИТЬСЯ С КАЖДЫМ ИЗ 8 БОЛОТ В РЕЗУЛЬТАТЕ ТОРФОРАЗРАБОТОК.

Два из этих «Восьми болот» находятся на территории Брестской области.

Это биологический заказник областного значения в Столинском районе Морочно и республиканский ландшафтный заказник «Выгонощанское» в Ляховичском и Ивацевичском районах.

Важно отметить, что болото Морочно имеет возраст более одиннадцати тысяч лет и является одним из семи чудес Беларуси. Испокон веков жители наделяли его магическими свойствами, из уст в уста передавая истории об обитателях «багны».

И даже сейчас, когда причина «плясок» болотных огней давно известна (эффектное зрелище обеспечивают испарения метана, которые в сочетании с кислородом становятся причиной искрящихся вспышек), болота обладают некой особой силой притяжения.

После торфоразработок болота, где сейчас растёт клюква, лекарственные травы, обитают редкие виды птиц, скорее всего превратятся в пустыню.

***Интернет-проект «Восемь болот» взывает к сознательности человека, чтобы обозначить в современном культурном пространстве место каждой уникальной экосистемы.***

17 января галерее «Ў» общественная кампания «За сохранение белорусских болот» провела презентацию видеоролика о значении беларуских болот, а также об ущербе, который может нанести их уничтожение «Зачем человеку болота: простая арифметика».

ДО ОСУШЕНИЯ ОБЩАЯ ПЛОЩАДЬ БОЛОТ В БЕЛАРУСИ ДОСТИГАЛА 2939 ТЫСЯЧ ГЕКТАРОВ. НА ДАННЫЙ МОМЕНТ ИЗ НИХ “ВЫЖИЛО” ЧУТЬ БОЛЬШЕ ПОЛОВИНЫ.



В Западной Европе из-за неразумной мелиорации уже более восьмидесяти процентов болот исчезло полностью. И сейчас европейцы рады каждому восстановленному клочку.

У нас же ситуация пока лучше, но дальнейшая судьба беларуских болот зависит от каждого жителя. И первым шагом в решении этой проблемы может стать подписание «Открытого обращения в защиту беларуских болот к Михаилу Мясниковичу».

Проблемы экологии – настоящий бич человечества. Невнимание к ним равносильно самоубийству, поскольку ничего не может быть страшнее, чем постепенное разрушение дома, в котором живешь.

Признаться, я и сам с большим удивлением узнал о наличии у нас в стране такого чуда природы, которому, как это уже стало привычным в последние годы, угрожает множество опасностей. Поэтому, на мой взгляд, нужно, чтобы как можно больше людей в нашей стране узнали об этой «жемчужине» и проявили заботу о её безопасности…

**Ales-BY**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

## СТАРАЖЫТНЕЙШАЯ, ЧЫМ ЧАСТА МЯРКУЮЦЬ

**Фармаванне беларускай мовы найчасцей звязваюць з часамі Вялікага Княства Літоўскага. Прыхільнікі тэорыі «старажытнарускага адзінства» лічаць, што перад тым усходнеславянскія народы гаварылі на адной мове.**

**Але ёсць факты, якія абвяргаюць гэтую тэорыю. У прыватнасці, гэта мова насельнікаў Берасцейшчыны і Піншчыны. Мяжа беларускай і ўкраінскай мовы не супадае ні з якімі дзяржаўнымі ані адміністратыўнымі граніцамі летапісных часоў. Значыць, гэтыя мовы раздзяляліся даўней. Калі ж?**

Як чалавека, які нарадзіўся ў Брэсце, мяне заўжды інтрыгавала пытанне мясцовай мовы. Ад неглыбокіх людзей можна пачуць, што тут гавораць «на сумесі беларускай, украінскай, польскай і рускай моваў».

Мінімальнай адукацыі і логікі досыць, каб зразумець, што гэта не так. Прычым калі цяпер яшчэ агрэсіўная русіфікацыя і міграцыі апошніх дзесяцігоддзяў прывялі да таго, што сапраўды многія людзі сталі гаварыць па-расейску з мясцовай фанетыкай і асобнымі мясцовымі словамі, то яшчэ 30 гадоў таму, у 1980-я гады ў вёсках суцэльна, а ў гарадах у хаце з выключнай чысцінёй гаварылі па-свойму, а па-расейску не гаварыў ніхто, акрамя прыезджых з Расіі і вузкага русіфікаванага слою.

«Свая мова» панавала абсалютна ва ўсіх неафіцыйных сітуацыях. Тое самае, зрэшты, было і ва ўсёй Заходняй Беларусі. Прычым гаварылі з захаваннем спрадвечных асаблівасцяў: у адной з маіх родавых вёсак казалі «жаба», «жаба», у другой — «жеба», «шепка». Існавала і свайго роду «кайнэ», гаворка, што ўспрымалася як нейтральная, прымальная для ўсіх. Усе школы ў гарадах былі расейскамоўныя, але, напрыклад, я да школы практычна не гаварыў па-расейску і мову расейскую чуў пераважна з тэлевізара, які глядзеў рэдка.

Савецкія ўлады разлічвалі мясцовыя гаворкі і мовы з часам, паціху ліквідаваць на карысць расейскай, таму моўнае пытанне не акцэнтавалі. Моўныя веды застаюцца ў большасці людзей вельмі павярхоўнымі, бо ў школах пра мясцовыя гаворкі не гавораць. А не гавораць, бо школьныя праграмы доўгі час заставаліся прадуманыя такім чынам, каб весці да русіфікацыі. Дый краязнаўчыя веды трымалі на ўзроўні прымітыўных ідэалагізаваных схемаў.

Навукоўцы ў XIX і XX ст. правялі дасканалыя даследаванні дыялектаў, і яны паказалі: мяжа беларускіх і ўкраінскіх гаворак праходзіць па лініі Белавежская пушча — рака Ясельда — Целяханы — Лунінец — рака Гарынь. На поўнач гэта беларускія гаворкі (хадзіць або ходзіці, рабіць або робіці, конь, лес, дзень). На поўдзень гэта ўкраінскія гаворкі (ходыты, робыты, кінь, ліс, дэнь). І толькі на самай мяжы ёсць месцамі гаворкі сапраўды пераходныя, дзе адны рысы — беларускія, а другія — украінскія.

А вось гаворкі Баранавіч, Косава, Ружанаў, Ваўкавыска належаць да паўднёва-заходніх дыялектаў беларускай мовы. Літаратурная ж мова, нагадаю, сфармавалася на аснове сярэднебеларускіх (паласа Вільня-Мінск-Гомель).

Саманазвы новага часу (беларусы, украінцы) былі прыдуманыя адміністратарамі і навукоўцамі. У Беларусі і Украіне назвы ўстанавіліся ў XIX, а замацаваліся ў XX стагоддзях. У масе сваёй нацыянальная ідэнтыфікацыя супадае ў Беларусі з дзяржаўнымі межамі, што ўстанавіліся пасля Другой сусветнай.

Першая захаваная саманазва паводле дзяржаўнай і рэлігійнай прыналежнасці — гэта «русь, руські, руськія людзі» — падданыя Русі, паства «рускай царквы». І яшчэ «літвіны, літва, літоўскія людзі» — падданыя Літвы, частка літоўскага адзінства. Менавіта гэтыя назвы захаваліся, дзякуючы доўгай наяўнасці адпаведнай царквы ці нядаўняй дзяржавы. У часы ж тых першых супольнасцяў людзі дзялілі чалавецтва на «сваіх» і «несваіх». «Гавары па-свойму» — гэта сціплая формула першай тоеснасці дажыла да нашых дзён.

Калі дапусціць, што да часоў ВКЛ і Рэчы Паспалітай існавалі толькі племянныя дыялекты, а мовы і культуры раздзяліліся ў XIII–XVI стагоддзях, то іх межы павінны супадаць з межамі ВКЛ ці РП. Не супадаюць!

Некаторыя кажуць, што беларуская і ўкраінская мовы раздзяліліся пасля Люблінскай уніі. (І Сталін, які алоўкам па мапе вызначыў цяперашнюю мяжу між Украінай і Беларуссю, правёў яе амаль дакладна па колішняй мяжы між Княствам і Каронай пасля 1569 года.) Але ж тая мяжа Вялікага Княства і Кароны праходзіла не там, дзе праходзіць мяжа беларускіх і ўкраінскіх гаворак сёння! На Мазырскім Палессі — так, але не на Берасцейшчыне.

Ніякай дзяржаўнай мяжы, мяжы «адукацыйнай» ці рэлігійнай, мяжы «дзяржаўнай, канцылярскай» мовы па гэтай лініі: Пушча-Ясельда-Целяханы-Лунінец-Гарынь ніколі ў часы Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, СССР не было.

І татальных міграцый — каб большасць насельніцтва замянялася на іншую — пісьмовая гісторыя не зафіксавала.

Межы моваў, дыялектаў праходзяць па межах цяперашніх ці былых дзяржаваў, асобных тэрытарыяльных адзінак. Або па межах рассялення старадаўніх плямён.

### АДКУЛЬ ЖА ТАКАЯ ВЫРАЗНАЯ МОЎНАЯ МЯЖА НА БЕРАСЦЕЙШЧЫНЕ?

Мяжа беларускай і ўкраінскай мовы азначае, што гаворкі, якія тут ёсць, сфармаваліся раней за ВКЛ, раней за XIII ст. Навукоўцы даюць некалькі тлумачэнняў.

Берасцейшчына ўваходзіла ў Галіцка-Валынскае княства. Аднак малаімаверна, каб моватворчы працэс адбываўся ў той час, бо і беларускія, і ўкраінскія землі тады былі падзелены на розныя княствы, і няма гістарычных фактаў, якія б сведчылі, што землі Полацкага княства, Віленшчына, Наваградчына і Гомельшчына былі злучаны тады ў адну супольнасць. Хутчэй, наадварот.

Мовазнавец Фёдар Клімчук адносіць фармаванне беларускай мовы да часоў так званай банцараўска-тушамлянска-калочынскай культуры (пачатак V — першая палова VIII ст. н. э.). Ён звяртае ўвагу на супадзенне яе археалагічнага арэалу і зоны беларускіх гаворак.

Менавіта тады, сцвярджае выдатны расійскі гісторык Валянцін Сядоў, на тэрыторыі Беларусі ішла метысізацыя славян з балтамі. Прычым Сядоў звязвае паскарэнне гэтага працэсу з прыходам у раён Дняпра, Дзвіны і Нёмана славян з Дуная. Яны сталі рухацца стуль групамі, гнаныя хвалямі качэўнікаў, што занялі Падунаўе. І яны прынеслі ў Беларусь вопыт, сфармаваны культурнымі ўплывы і гаспадарчымі практыкамі з межаў былой Рымскай імперыі. На той момант на тэрыторыі Беларусі суіснавалі іншыя славяне і балты, да іх далучыўся дунайскія славяне, выводзіць на аснове археалагічных звестак Сядоў.

Дарэчы, генетычныя даследаванні паказалі супадзенні пэўных рысаў беларусаў менавіта з дунайскімі народамі (у іншых жа рысах беларусы супадаюць з расейцамі і ўкраінцамі).

Ад тых часоў не засталося пісьмовых помнікаў. Толькі гарадзішчы ляжаць — даволі магутныя гарадзішчы.

Клімчук мяркуе, што менавіта тады, у тыя адносна




спакойныя часы, адбылася кансалідацыя насельніцтва ў трох рэгіёнах (Беларусь, Заходняя Расія і Паўночная Украіна) і ўтварыліся этнакультурныя супольнасці, якія далі аснову сучасным беларусам, украінцам, расейцам.

Калі развіць думку Клімчука, вынікае, што ў часы «Аповесці мінулых гадоў» беларускія гаворкі ўжо існавалі, і менавіта на іх гаварылі крывічы, дрыгавічы, радзімічы. І ўкраінскія гаворкі ўжо існавалі (на іх гаварылі паляне, валыняне, драўляне і г.д.) і расейскія (на іх гаварылі славене, вяцічы плюс рана асіміляваныя чудзь, мурама, мяшчэра…).

Той факт, што мяжа беларускай і ўкраінскай мовы не супадае ні з якімі дзяржаўнымі ані адміністратыўнымі граніцамі часоў пасля ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага, можа быць патлумачаны толькі тым, што беларуская і ўкраінская мовы сфармаваліся раней за паўстанне першых летапісных дзяржаваў, раней за «шматковую імперыю Рурыкавічаў» Кіеўскую Русь.

> «СТАРАЖЫТНАРУСКАЕ АДЗІНСТВА» — ПАДСТАВОВЫ МІФ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ. МАЎЛЯЎ, БЫЎ АДЗІН НАРОД, А ПАСЛЯ ЁН РАЗ'ЯДНАЎСЯ. ЗА АДМАЎЛЕННЕ СТАРАЖЫТНАРУСКАГА АДЗІНСТВА ПРЫ САВЕТАХ У ГОРШЫЯ ЧАСЫ ГІСТОРЫК МОГ ТРАПІЦЬ У СІБІР, А Ў ЛЕПШЫЯ — СТРАЦІЦЬ ПРАЦУ.

У XIX і XX ст. напрацаваны гіганцкі масіў ведаў пра мовы і гісторыю народаў Беларусі. Там свет усяго цікавага. Трэба гэта толькі выбіраць і перавыдаваць.

**Паводле: nn.by**

## ДАРЭЧЫ

Маленькі хлопчык у заапарку пралез у клетку з ільвом і працягнуў яму пячэньку. Ну што тут сказаць: хлопчык хацеў пакарміць льва - хлопчык пакарміў льва.

***

- Мне 14, майму хлопцу хутка будзе 21. Я не ведаю што яму падарыць.
- Падары яму крымінальны кодэкс.

***

Мужчыны – як грамадскі транспарт: усё чакаешчакаеш патрэбны нумар, а яго ўсё няма і няма... А потым кідаеш гэты бессэнсоўны занятак і едзеш з перасадкамі.

***

Я заўсёды быў упэўнены, што на той мове, на якой пішуць лекары, машыністы прыгарадных цягнікоў абʼяўляюць прыпынкі.

***

- У вас пары ў колькі пачынаюцца?
- Па-рознаму. Кажуць, нават раніцай у 8-30 ёсць...

***

Кожны лекар рана ці позна адкрывае свае маленькія могілкі.

А кожны выкладчык - свой маленькі ваенкамат!

***

Каб спакойна заснуць, трэба прыняць расслабляльную ванну, выпіць зялёнага чаю і кінуць гранату ў гэтых прыдуркаў пад акном.

***

Жанчына ў сябе дома займаецца ўборкай, і раптам званок у дзверы. Адкрывае. На парозе мужчына:

- Добры дзень. Прашу прабачэння за цікаўнасць, як вы ставіцеся да анальнага сэксу?

Жанчына зачыняе дзверы. На наступны дзень ізноў званок.

Той жа мужчына:

- Добры дзень. Выбачце за непакой. Скажыце калі ласка, ці любіце вы сэкс у пазіцыі 69?
- Вымятайся, паскуда, ці міліцыю выклікаю.

Званок на наступны дзень, усё зноў:

- Калі я здаюся вам назойлівым, прабачце, але ці падабаецца вам падчас аргазму слухаць непрыстойнасці?
- Ну ўсё, мне надакучыла. Скажу мужу, і наракай потым на сябе.

І сапраўды, усё распавяла мужу.

Муж кажа:

- Калі ён яшчэ раз прыйдзе, я стану за дзвярыма, паспрабуй яго затрымаць.

На наступны дзень усё як звычайна:

- Добры дзень, рады вас бачыць. Ці прыцягвае вас аральны сэкс?

Жанчына:

- Вельмі.
- І анальны?
- І анальны.
- А 69?
- Вельмі любл.
- А каб з садамаза?
- Люблю.
- Тады, калі ласка, перадайце свайму мужу, што, калі ў яго ёсць пад рукой усё, што трэба, навошта ён спіць з маёй жонкай?

# ЛЕГЕНДЫ І МІФЫ БЕЛАРУСІ



### ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:

5. Назва планеты Венера ў яе вечаровай бачнасці, якая ў беларусаў называецца “божай памочніцай”.
6. Жаночая прычоска. У яе, каб засцерагчыся ад нячыстай сілы, уплялі расліны-абярэгі.
7. Звярок, вельмі папулярны персанаж беларускіх казак пра жывёл.
9. Легендарны князь, якому паданне прыпісвае пабудову Камянецкай (Белай) вежы.
10. Тое, што і пабудова.
12. Выраб тканіны, з якім на Беларусі існавала шмат магічных дзеянняў, прыкметаў, прыпевак.
14. Чарадзейная… Найбольш старажытны і самы распаўсюджаны на Беларусі фальклорны твор.
19. Месяц года, на які прыходзіцца прысвятак беларускага народнага календара “Зміцер”. “Да Змітра дзеўка хітра” (прык. ).
20. Прыстасаванне для ручнога прадзення, якое калісь на Беларусі выкарыстоўвалі ў якасці сродку супрацьдзеяння нячыстай сіле.
21. Птушка, якая на Беларусі лічылася “божай”. Першы спеў яе быў сігналам да пачатку веснавых работ.
22. …-кветка. Міфічная расліна, паданні пра якую звязаны на Беларусі са святам Купалля.
27. У паганскай міфалогіі — бог грому і маланкі, свяшчэнным дрэвам якога быў дуб.
30. … нядзеля. Апошняя перад Вялікаднем нядзеля, з якой звязана асвячэнне ў храмах галінак вярбы.
31. Адзін з асноўных атрыбутаў беларускага вяселля.
32. Драўляная пасудзіна, на якую, благаслаўляючы на шлюб, садзілі нявесту.
33. Згодна з міфалогіяй — прадвызначанасць чалавечага лёсу. “Така …, як у небе столя” (прык. ).
34. Бог агню, у якога верылі пераважна на Міншчыне. Іншая назва — Жыжаль. 35. Іван-… Свята Адсячэння галавы Іаана Хрысціцеля, якое адзначалася 11 верасня.

### ПА ВЕРТЫКАЛІ:

1. Імя жонкі легендарнага волата Мянеска, заснавальніка Мінска.
2. Паводле беларускай міфалогіі, чалавек, ператвораны ў ваўка, пярэваранецнь.
3. Жанчына, надзеленая магічнымі здольнасцямі, якія выкарыстоўвае для дапамогі людзям.
4. Прыродная з’ява, якая, паводле міфалогіі, след вогненнай калясніцы святога Іллі на небе.
6. Адзін з важнейшых сімвалаў у міфалогіі.
8. Персанаж беларускай міфалогіі, багіня лета.
14. Адна з назваў хрысціянскага свята, калі, згодна з павер’ем, сонца купаецца, грае, мяняецца ў колеры. Прыходзіцца свята на 27 верасня.
13. Промысел па перавозцы коньмі каго-, чагонебудзь. 15. Нясвіжскі …, ці палац, у якім, паводле легенды, блукаў прывід Барбары Радзівіл, жонкі караля Польшчы Зыгмунда Аўгуста.
16. Камар не …, яго і без доўбні ўб’еш (прык. ).
17. Улез у …: ні ўзад, ні ўперад (прык. ).
18. Прыгарад, прадмесце (устар. ).
23. Паводле народных уяўленняў чалавек, надзелены магічнымі здольнасцямі. Іншая назва — чараўнік.
24. Маладая; тое, што і нявеста.
25. Не дораг…, дораг прывет (прык. ).
26. Насціл у памяшканні, які ў дзень ад’езду кагосьці з родных, не падмятаюць, забаранялася на яго пляваць і іншае.
28. Ложак для немаўляці, з якім былі звязаны шматлікія павер’і і засцерагальныя захады: забаранялася калыхаць пустую …, каб не калыхаць чорта, хваробу і іншае.
29. Імя дзяўчынкі-прыгажуні, ад якога, паводле падання, атрымала назву буйнейшае на Беларусі возера Нарач.

nv-online.info

**Дзедзіч** ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

- **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
- **Распаўсюджваецца бясплатна**
- **Падпісана ў друк** 25.02.2013 года у 18-00
- **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
- **Гарнітура** Helios
- Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.

- **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
- **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
- Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
- Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
- **Наклад** 299 асобнікаў